Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 2 ♦ 5 — 12 мая 1995 года Цана 200 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

# 50 год таму мы перамаглі фашызм

## Схілім галовы перад памяццю паўшых



**Маці, жонкі былых франтавікоў...
З якой надзеяй чакалі яны гэты пераможны дзень сорак пятага года.
Колькі слёз выплакалі.
Колькі прасілі бога абараніць, зберагчы ад кулі дарагога сына, любімага мужа...
І прыйшла нарэшце доўгачаканая Перамога.
І радаваліся ўсе людзі.
Дамоў вярталіся стомленыя салдаты.
Але не ўсіх дачакаліся ў сем'ях.
Вельмі шмат іх загінула на фронце.
Да сённяшняга дня не дажылі многія з тых, хто прыйшоў з ваенных дарог.
Успомнім іх.
І памянём.**



Фота В.Табуліна

## Прадпрымальнікаў стане менш?

**Мінск**

*Сярод сталічных прадпрымальнікаў і бізнесменаў ходзяць чуткі, што падрыхтаваны праект Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб мерах па забеспячэнню паступленняў у бюджэт падаткаў і падатковых плацяжоў», які непасрэдна тычыцца іх дзейнасці.*

Праект Указа, як сцвярджаюць тыя, хто пазнаёміўся з ім, прадугледжвае перарэгістрацыю да 1 кастрычніка бягучага года ўсіх юрыдычных асоб незалежна ад форм уласнасці і прадпрымальнікаў, якія ажыццяўляюць дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы. Тым з іх, хто сістэматычна ўкрывае даходы, на працягу больш трох месяцаў не мае на рахунку ў банку сродкаў, у перарэгістрацыі будзе адмоўлена.

Згодна з гэтым дакументам будзе забаронена рэгістраваць фірмы ў жылых памяшканнях, а органы кіравання суб'ектаў гаспадарання павінны размяшчацца на адміністрацыйных тэрыторыях па месцы рэгістрацыі.

Праект Указа прадугледжвае таксама абавязковую перарэгістрацыю ў якасці юрыдычнай асобы тых прадпрымальнікаў, якія ажыццяўлялі сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы і пры гэтым выкарыстоўвалі наёмную працу.

## Попыт на долары ўпаў

*На мінулым тыдні, як і працяглы ўжо час, долар не змяніў свайго кошту. Па выніках таргоў на Міжбанкаўскай валютнай біржы попыт на яго быў меншы, чым прапанова.*

Прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка на сустрэчы 20 красавіка з журналістамі пацвердзіў, што курс долара сапраўды падтрымліваецца штучна. У канцы студзеня- пачатку лютага, адзначыў Прэзідэнт, былі прыняты жорскія меры, накіраваныя на стрымліванне курса беларускага рубля. І цяпер нацбанк вымушаны падтрымліваць ужо не беларускі рубель, а амерыканскі долар.

Аднак, па прагнозах спецыялістаў, хутка курс долара стане расці.

***Па матэрыялах прэсы.***

Па графіку

## Смаргонцы здзівіліся. Але гэта была першая рэакцыя

Жыхары сталіцы беларускіх абаранкаў здзіўляліся, калі нашы грамадскія распаўсюджвальнікі прапаноўвалі ім бясплатна першы нумар «Рэгіянальнай газеты». Ды здзіўленне хутка перарастала ў цікаўнасць і цікавасць: а што гэта за выданне? А ці ёсць у ім праграма тэлебачання? Вадзіцелі ж аўтобуснага парка прасілі даць нумароў і на іхніх калегаў. Цікавасць перарастала ва ўзаемаразуменне і падтрымку: дык гэта ж добрая газета! Калі выйдзе наступны нумар?

Наступны нумар выйшаў па графіку— праз тыдзень. І графіка гэтага мы мяркуем прытрымлівацца надалей. Хіба што калі святы «скарэктуюць» нашы планы. Але нават цяпер, у самым насычаным на святы месяцы, мы вытрымліваем загадзя пазначаны сабе тэмп. Што ж да распаўсюджвальнікаў, дык яны ахапілі ўвесь рэгіён. Толькі Валожыншчына засталася крыху незаўважанай. Але нават там газета, як і паўсюдна, дайшла да кіёскаў «Белдруку». Гандляваў «Белдрук» нашай газетай і ў сталіцы. Пакуль усяго толькі тысячу экземпляраў накіравалі мы на Мінск. Ды думаем, што гэтага малавата.

Так што, калі вам не патрапіць набыць «Рэгіянальную» з рук газетаношы, не палянуйцеся зазірнуць у кіёск. Усяго за дзвесце рублёў зможаце купіць ужо знаёмае выданне. Хутка, спадзяёмся, вырашыцца пытанне і з правядзеннем падпіскі. Мы плануем даць бланк падпіснога абанемента ў наступным нумары.

Дзякуй нашым першым чытачам за падтрымку!

***Рэдакцыя***



Ахвяры вайны

## 1040 мірных жыхароў -яўрэяў былі спалены акупантамі ў 1942 годзе ў мястэчку Куранец.

*Куранецкі сельскі Савет Вілейскага раёна ўзводзіць помнік ахвярам гітлераўскага генацыду. На выраб і ўстаноўку памятнага знака не хапае сродкаў.*

*Куранецкі сельскі Савет звяртаецца да прадпрымальнікаў, усіх грамадзян дапамагчы грашовымі сродкамі на ўзвядзенне помніка. Грошы просім пералічваць на пазабюджэтны рахунак N 143813 Куранецкага сельсавета ў АК АПБ у Вілейцы код 903.*

*Падрабязную інфармацыю і даведкі можна атрымаць па тэлефоне ў Куранцы 8-(01771)-46-4-35.*

*Удзячныя Вам за разуменне і падтрымку.*

***Выканком Куранецкага сельсавета.***

Муры маўчаць

## Знайшлі супакой на могілках

Увесну гэтага года сродкі масавай інфармацыі Беларусі абыйшла навіна: пад мурамі былой вілейскай турмы пры будаўніцтве бальнічнага корпуса знайшлі чалавечыя астанкі. Хаця навіной для вілейчан гэта не было. Да канца шасцідзесятых на будынку турмы вісела мемарыяльная дошка, дзе паведамлялася аб расстраляных тут нямецкімі фашыстамі тысячах ахвяр. Пераабсталявалі турму пад бальніцу- - мемарыяльная дошка і знікла.

Ёсць меркаванне, што акрамя ахвяраў фашыстаў тут ляжаць і целы ахвяраў сталіншчыны, магчыма, польскай санацыі і рэжымаў ранейшых часоў. Турма ж пабудавана ў 1853 годзе. Пытанне, як кажуць, застаецца адкрытым. А пакуль гісторыкі высвятляюць— чые ж астанкі знайшлі пры будаўніцтве-- прах людскі патрабаваў спакою. Вось чаму гарадскія ўлады прыйшлі да адзіна правільнага рашэння-- не чакаючы высвятлення абставінаў смерці дзесяткаў людзей, перазахаваць іх на новых гарадскіх могілках. Другога мая і адбылося адкрыццё сціплага мемарыялу, дзе знайшлі апошні свой прытулак тыя, каго расстралялі і закатавалі ў вілейскай турме.

***Аддзел інфармацыі***

Нас ведаюць

## Пасол Ізраіля быў у Маладзечне і размаўляў па-беларуску

Пасол Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь Эліагу Валк са сваёй жонкай спадарыняй Авівай наведалі нядаўна Маладзечанскую сярэднюю агульнаадукацыйную школу мастацтваў. Нагодай для гэтага паслужыла выстаўка малюнкаў вучняў мастацкіх класаў пад назвай «Ерусалім». Яшчэ восенню быў аб'яўлены рэспубліканскі конкурс дзіцячых работ на гэту тэму, ініцыятарам якога выступілі Міністэрства культуры РБ і пасольства Ізраіля. Мэта яго— збліжэнне нашых народаў, выяўленне дзіцячых талентаў.

Юныя мастакі з Маладзечна першымі ў рэспубліцы выставілі свае работы, у якіх увасобілі сваё ўяўленне аб сталіцы Ізраіля, найпрыгажэйшым і найстаражытнейшым горадзе, цэнтры трох цывілізацый. «Пакуль цяжка гаварыць, ці трапяць яны ў калекцыю, што будзе адпраўлена ў Ізраіль, аднак з упэўненасцю можна сказаць, што выкананы яны на добрым узроўні»,— сказаў спадар пасол. Дарэчы, у час сустрэчы з вучнямі і настаўнікамі школы ён гутарыў на выдатнай беларускай мове.

***Анжаліка КРУПЯНЬКОВА***

Адказ начысціню

# Чаму вы ў Вілейцы?

Уладзімір Варашнін прайшоў суровую школу доўгай афіцэрскай службы на падводным флоце. Заснаваў сваю ўласную справу і дабіўся ў ёй поспеху, выстаяўшы ў шалёным змаганні з нахабнымі чыноўнікамі і азвярэлымі крымінальнікамі-вымагальнікамі. Некалькі мінут побач з ім— зарад жыццястойкасці, надзеі і ўпэўненасці ў будучыню. «Кандыдацкі» круглы стол у Вілейцы 25 красавіка — яскравае сведчанне таму. Сёння гучыць падзяка ў яго адрас, перш за ўсё за правільную пазіцыю і мэтанакіраванасць. Вось такі кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі па 185 Вілейскай выбарчай акрузе Варашнін Уладзімір Мікалаевіч.



***—Але, на мой погляд, адно пытанне не знайшло належнага адказу. Чаму вы ў Вілейцы?***

—Адказваю начысціню. Адраджэнне любых краін пачынаецца з рэгіёнаў. Не ў шыкоўных сталічных кабінетах, а ў калгасах, фермерскіх гаспадарках, кааператывах, міні-прадпрыемствах, заводах… Пачнецца пад'ём на месцах — а значыць і ўсёй дзяржавы. Калі, зразумела, армада «прынцыповых» чыноўнікаў дазволіць нам зрабіць гэта. Вось для гэтага я павінен быць у Вярхоўным Савеце, каб не даць разам са сваімі аднадумцамі разбурыць канчаткова, раскрасці дзяржаву, ператварыць свой народ у рабоў. Падругое. Вілейшчына— унікальны рэгіён, які я пазнаў і палюбіў за апошнія два гады сваёй дзейнасці тут. Яна размясцілася на стыку трох абласцей, вядомая сваім эканамічным патэнцыялам перапрацоўчай і мясцовай прамысловасці, талентамі, буйнейшым прадпрыемствам аптычнага прыборабудавання Усходняй Еўропы— заводам «Зеніт». І самае галоўнае— працалюбівымі, умелымі, сціплымі і дастойнымі людзьмі. Я нідзе не сустракаў такога ўпэўненага погляду наперад, гатоўнасці з нуля пачаць справу і дабіцца ў ёй поспеху. Не дзеля свайго дабрабыту, а для добрых спраў, для людзей. Менавіта ў гэтым я разумею вілейчан і хачу дапамагчы ім не падачкай, а арганізацыяй канкрэтных спраў.

***— Вы кажаце, што ўжо больш за два гады працуеце на Вілейшчыне, але жыхары даведаліся пра вас толькі цяпер. Ці звязана гэта з перадвыбарнай кампаніяй альбо ёсць нейкая іншая прычына?***

— Сакрэт у тым, што я не ўмею і не люблю громка гаварыць, мабыць, не здольны на пахвальбу. Спытайцеся ў маіх аднадумцаў і яны раскажуць пра тое, што зроблена тут за апошнія два гады.

***— Можна сказаць, што падчас перадвыбарчай кампаніі пачаўся якасна новы этап вашай дзейнасці на Вілейшчыне?***

— Мы разам з ініцыятыўнай групай стварылі сапраўдную каманду больш чым у паўтысячы чалавек, каманду, якая аказвае самую актыўную падтрымку мне перад выбарамі як кандыдату. А калі маеш столькі аднадумцаў і сяброў, больш актыўнай становіцца работа. Бо адзін Варашнін— гэта адзін чалавек, а калектыў— гэта ўжо рэальная сіла, здольная ад пустаслоўя і абяцанкаў перайсці да канкрэтных спраў. І мы гэта робім.

***— Сёння кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Савета зарэгістраваны 2348 чалавек, у тым ліку ад палітычных партый— 1126, ад арганізацый ветэранаў і інвалідаў— 69, ад працоўных калектываў навучальных устаноў— 35, на сходах па месцы жыхарства— 9, на сходах у вайсковых часцях— 44, метадам збораў подпісаў— 603 чалавекі. Вы зарэгістраваны метадам збору подпісаў, а чаму не ад Саюза ваенных маракоў Беларусі, старшынёй якога вы з'яўляецеся? У Вілейцы ж ёсць пярвічная арганізацыя Саюза.***

— Па-першае. Сабраць сход арганізацыі і вылучыць кандыдатаў, мне здаецца, самае простае. Такім спосабам мы ўжо вылучалі кандыдатаў у дэпутаты ўсіх папярэдніх і апошняга парламентаў. Пра вынікі гэтага гаварыць устрымаюся. Па-другое. Саюз ваенных маракоў— гэта не партыя, не палітычная арганізацыя, а саюз адказных, выпрабаваных лёсам і суровай марской службай аднадумцаў ад матроса, старшыны, мічмана да адмірала. Так ужо склалася, што ў Беларусі 200 тысяч чалавек былі звязаны лёсам з морам. Флоцкая марская дружба, змацаваная соллю і потам, робіць чалавека асобай назаўсёды. І я шчаслівы, што такія людзі даверылі ўзначаліць мне Саюз. І, нарэшце, трэцяе, галоўнае. Збор подпісаў— гэта давер выбаршчыкаў, жыхароў і працаўнікоў Вілейшчыны, а не палітычнай групкі крыкуноў-«рэфарматараў», якія заўсёды ведаюць і раяць як нам жыць.

Таму яшчэ раз дзякуй 900 выбаршчыкам, якія вылучылі мяне кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета.

***— Восем кандыдатаў, восем розных праграм, восем варыянтаў выбару ў выбаршчыкаў. Як вы параіце зарыентавацца і вызначыцца ў такой сітуацыі выбаршчыку?***

— Магу параіць толькі адно— не памыліцца, быць упэўненым у тым, што кандыдат, якому аддаецё вы свой голас, зможа справіцца разам са сваімі аднадумцамі, а калі трэба, і самастойна, з той цяжкай працай народнага прадстаўніка і абаронцы інтарэсаў сваіх выбаршчыкаў у Вярхоўным Савеце, каб гэта дазволіла стаць Вілейшчыне эканамічна моцным, духоўна і культурна багатым краем.

***— Што вы можаце сказаць на развітанне?***

— Павіншаваць усіх з пяцідзесяцігоддзем Вялікай Перамогі, пажадаць міру, шчасця, здароўя і дабрабыту. А вілейчан віншую, да таго ж, з двухсотгоддзем надання Вілейцы статуса горада. Для горада гэта юначы ўзрост, а таму і пара пачатку здзяйснення сваіх мар, спадзяванняў, час рэальнага вырашэння жыццёвых праблем.

*Гутарыў Ігар* ***ЛЕЎЧАНКА***

Рабаўніцтва сярод белага дня

# Не лавіце варон, не лавіце…

Яшчэ ў мінулым стагоддзі Казьма Пруткоў сказаў вельмі коратка і ёмка: "Бди!". Ён тады яшчэ не мог ведаць, што з часам з'явяцца вялікі камбінатар Астап Бендэр і яго шматлікія паслядоўнікі, але тым не менш заклікаў нашчадкаў быць пільнымі, не лавіць, вобразна кажучы, варон.

Той жа, хто грэбуе жыццёвым афарызмам, нярздка аказваецца ў дурнях, становіцца ахвярай усялякіх махляроў, якіх цяпер хоць гаць гаці. Прытым сярод пацярпеўшых апошнім часам усё больш і больш становіцца салідных прадпрыемстваў, арганізацый. У іх ліку зусім нечакана аказалася і доследная рыбная гаспадарка "Нарач". Ласкавым веснавым днём яна без усялякага гвалту пазбавілася ўласнай прадукцыі больш як на 104 мільёны рублёў.

А пачалося ўсё з бяскрыўднага тэлефоннага званка. Невядомы патурбаваў агента па збыту доследнай гаспадаркі Анатоля Тарасава, прадставіўся супрацоўнікам мінскай фірмы "Мастра", пацікавіўся, як разыходзяцца рыбныя кансервы.

-- Ды някепска, -- пачуў у адказ.

-- Вы ведаеце, -- працягваў невядомы, -- мы таксама хацелі б узяць у вас партыю прадукцыі. Салідную!

-- У чым жа справа, -- з ахвотай пайшлі яму насустрач, — пералічвайце грошы, і кансервы вашы.

-- А на які рахунак?..

Ужо на наступны дзень у рыбнай гаспадарцы па тэлефаксу прынялі плацёжнае даручэнне. Быў там і штамп аднаго з філіялаў "Белпрамбудбанка", які сведчыў, што на рахунак рыбнай гаспадаркі паступіла 104 мільёны 430 тысяч рублёў. Неўзабаве зноў прагучаў званок з Мінска:

-- Грошы мы пералічылі, як і дамаўляліся. Заўтра чакаем прадукцыю. Па прыездзе ў сталіцу экспедытар няхай пазвоніць па тэлефоне нумар… Мы сустрэнем.

У рыбнай гаспадарцы без усялякай задняй думкі загрузілі на ГАЗ-53 чатырнаццаць тысяч бляшанак кансерваў і павезлі ў Мінск. Ля ўніверсама "Дразды" вадзіцель спыніўся, пазваніў па ўказанаму тэлефону.

-- Пачакайце крышачку, -- сказалі яму, -- зараз пад'едзем.

І сапраўды, неўзабаве да грузавіка падыйшоў малады хлопец. Павітаўся, узяў накладныя на прадукцыю, паставіў пячатку фірмы, што груз атрыманы. А потым да вадзіцеля:

-- Склады ў нас цяпер перапоўненыя, таму завязем кансервы ў адзін з гаражоў у раёне Шабаноў.

Так і зрабілі. Вадзіцель выгрузіў кансервы і накіраваўся ў зваротны шлях…

Праз некалькі дзён агент рыбнай гаспадаркі па збыту вырашыў даведацца, ці паступілі грошы за адпраўленую прадукцыю.

-- Не яшчэ, -- паведамілі ў бухгалтэрыі.

Толькі тут у адказных работнікаў прадпрыемства закралася думка: а ці не абвялі іх вакол пальца? І яны распачалі актыўныя пошукі прапаўшых мільёнаў. У рэшце рэшт высветлілася, што фірма "Мастра" ніякага дачынення да кансерваў не мае, плацёжнае даручэнне падробленае, дадзены нумар тэлефона ўстаноўлены на адной з кватэр, гаспадыня якой некуды выехала, а гараж, куды выгрузілі прадукцыю, хтосьці камусьці некалі аддаў у арэнду…

-- Няўжо нельга было адразу пасля атрымання "плацёжкі", -- пацікавіўся я ў галоўнага бухгалтара доследнай рыбнай гаспадаркі Людмілы Рогавай, -- пазваніць у банк і праверыць, ці сапраўды на ваш рахунак паступіла ўказаная сума? Гэта ж не некалькі тысяч, а за сотню мільёнаў.

-- На жаль, -- адказала засмучаная Людміла Яўгенаўна, -- адразу гэтага не зрабілі. Раней нас ніхто не ашукваў і мы верылі людзям.

-- Сёння, -- неаднаразова падкрэсліваў у размове следчы Мядзельскага РАУС Сяргей Сакалоў, які вядзе крымінальную справу аб махінацыі з кансервамі, -- нельга быць такімі даверлівымі. Дасведчаным асобам не складае ніякай цяжкасці перадаць па тэлефаксу падобнае плацёжнае даручэнне, іншыя дакументы. Таму ўсім, хто мае дачыненне да нейкай прадукцыі, тавараў, проста неабходна быць больш пільнымі і памятаць, што рознага роду авантурысты не спяць у шапку.

Ну, а мы будзем спадзявацца, што следчым усё ж удасца ўстанавіць злачынцаў, раскрыць крадзёж у асабліва буйных памерах.

***Павел ЖУКАЎ.***

Мядзел.

Мядзельскі мерыдыян

## Усебеларускі злёт на Нарачы

Сёння пачаўся Усебеларускі злёт турыстаў-краязнаўцаў экспедыцыі «Наш край», прысвечаны 50 -годдзю Вялікай Перамогі. Праходзіць ён на базе шырока вядомага дзіцячага лагера Зубраня. А праводзіць гэта мерапрыемства Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

З усіх яе куткоў сабраліся на беразе Нарачы турысты-краязнаўцы. Праграма злёту, разлічаная на чатыры дні, даволі насычаная: канферэнцыя, турыстычная эстафета, паходы, віктарына «Ці ведаеш ты гісторыю Беларусі?», выстаўка работ краязнаўцаў і шмат чаго іншага. На канферэнцыі, у прыватнасці, павядуць размову аб адраджэнні гістарычнай памяці, летапісе родных мясцін, трагічных старонках гісторыі, вёсак, што зніклі з твару зямлі, старадаўніх назвах і помніках.

А тых, хто вызначыцца ў час злёту, адзначаць напярэдадні Дня Перамогі граматамі, прызамі. У заключэнне дадам, што ўсяго ў ім прымаюць удзел 170 юных турыстаў-краязнаўцаў.

***Наш кар.***



## «Зорны» дождж у Маладзечне

*Студыя творчай моладзі «Сябрына»— так завецца малады калектыў, які робіць першыя крокі ў арганізацыі канцэртаў, музычных конкурсаў і іншых забаўляльных мерапрыемстваў для школьнікаў. Маладзечанцы ўжо добра ведаюць аб існаванні студыі. Штогод сюды запрашаюцца адораныя дзеці і вучацца вакальнаму майстэрству. А сёлета тут створана і танцавальная група.*

*Напярэдадні святаў «Сябрына» запрасіла ўсіх жадаючых у Дом культуры чыгуначнікаў на музычнае шоў. Нягледзечы на даволі сціплую рэкламу гэтага мерапрыемства, гледачоў у зале ДК сабралася шмат. На юных зорак прыйшлі паглядзець са сваімі дзецьмі і дарослыя. Да таго ж, напярэдадні хадзілі чуткі, што ў канцэрце прымуць удзел артысты з Мінска.*

*Чуткі пацвердзіліся. Разам з юнымі спевакамі, танцорамі на сцэну выходзілі такія знакамітыя зоркі беларускай эстрады як Іна Афанасьева, Валерый Дайнека, кампазітар Алег Елісеенкаў.*

*Музычнае шоў працягвалася больш трох гадзін.*

*Зала была перапоўнена ўвесь гэты час.*

***Вячаслаў ТАБУЛІН***

**На здымку:** спявачка Іна Афанасьева з юнымі танцоркамі студыі «Сябрына».

***Фота аўтара.***



Ну і ну!

## Наладзілі кааператары вытворчасць. Самагон цурчэў будзь здароў!

Назва ў гэтага кааператыва прыгожая і ў адпаведнасці з лепшымі традыцыямі былых часоў-- "Мір". Месца размяшчэння-- таксама адпаведнае: у вёсцы Багданава на Вілейшчыне, у маляўнічым кутку прыроды, дзе калісці быў дзіцячы дом, потым піянерскі лагер.

Комплекс будынкаў кааператары выкупілі ў свой час вельмі танна, плануючы наладзіць там вытворчасць. І наладзілі.

У будні красавіцкі дзень работнікі кааператыва А.Пяроўскі, С.Качан, Л.Шушкевіч, В.Будзько і А.Шупляк займаліся справай. Ды не той, якой абавязаны займацца згодна са штатным раскладам.

Пыхкаў самаробны міні-заводзік, вырабляючы зелле, што ў народзе шырока вядомае пад назвай "самагон".

Участковы міліцыянер вельмі здзівіўся, натрапіўшы на гэту вытворчасць, і палічыў патрэбным пацікавіцца: чым займаецеся і з якой мэтай? На гэта пытанне самагоншчыкі адказалі лаканічна: для патрэб кааператыва. Якія ж гэта патрэбы, растлумачыць, аднак, не змаглі.

Ну і ну!

***Наталля МІХАЙЛАВА***

Сябе не шкадуем

## Полымя помсты

***МАЛАДЗЕЧАНСКІ РАЁН. Не паспелі жыхары Вязынкі забыць пра адзін пажар, у выніку якога ўшчэнт згарэла хата і ледзь не загінула дзіця, як полымя ўспыхнула пад дахам іншага дома. На гэты раз гаспадар-- дакладней, сын гаспадыні-- сам спрабаваў падпаліць сваё жыллё.***

Выпадак гэты мае адпаведную перадгісторыю. Цяжка сказаць, з чаго пачалася яна. Уладзімір П. у свой час адбываў тэрмін у турме. Пасля вяртання спрабаваў пачаць новае жыццё. Працаваў у мясцовай гаспадарцы трактарыстам. Але аднойчы, п'яны, разбіў трактар.

У апошні час ён нідзе не працаваў. Шмат піў. Пазнаёміўся з жанчынай, якая адразу не прыйшлася да спадобы маці. І яе можна зразумець. Сяброўка сына таксама злоўжывала алкаголем, мела дзяцей, але была пазбаўлена бацькоўскіх правоў.

…У той дзень, па словах суседзяў, сын зноў прыйшоў дадому не адзін. Калі маці паспрабавала адмовіць у прыёме сыну і новаспечанай нявестцы, Уладзімір накінуўся на яе з кулакамі. А потым схапіў каністру і пачаў абліваць сцены дома бензінам. Падпаліў. На шчасце, агонь з дапамогай вяскоўцаў удалося хутка патушыць.

***Аддзел інфармацыі***

# Адкрыты ліст інспектару

Паважаная Аліна Данілаўна!

Як Вы правільна сказалі, я нікому і нідзе не дакажу, што з-за вялікай вашай загружанасці 6 сакавіка гэтага года мне давялося падпісаць чысты акт праверкі пададзенай мной 13 студзеня дэкларацыі аб даходах. Не дакажу таксама, што на працягу 46 дзён Вы выклікалі мяне 8 разоў у падатковую інспекцыю, прапаноўваючы ўнесці выпраўленні ў кнігу расходаў і даходаў, а пасля сказалі, што гэта рабіць недапушчальна.

А ці патрэбна гэта даказваць і каму?

На жаль, Вы так і не пераканаліся, што даходы ад дзяржавы я не хаваў. Я гэта ведаю, але не думаю даказваць праз суд.

Ні кватэры, ні дачы, ні аўтамабіля я не маю і не стаўлю сабе гэта за мэту жыцця. А мэтай і сэнсам бачу працаваць дзеля людзей. Толькі так можна пачуць сапраўдную ўдзячнасць.

Не дзеля пахвальбы, а дзеля справядлівасці нагадаю Вам, што толькі падзяку атрымліваў за пастаўку таннага паліва маслазаводу, што папярэдзіла яго спыненне ў красавіку 1994 года; за пастаўку бетону ў той час, калі ў Вілейцы не было цэменту, для будаўніцтва падлогі перапрацоўчага цэха па вытворчасці плаўленых сыркоў у чэрвені 1994 года; за арганізацыю выплаты заработнай платы 200 работнікам завода «Зеніт» у лістападзе 1994 года; за арганізацыю і аказанне дапамогі літаратурнай гасцёўні гарадской бібліятэкі; за пастаўку 250 тон таннага дызпаліва і бензіну калгасам Вілейскага раёна пад ураджай 1995 года для правядзення вясенняй сяўбы; за арганізацыю закупкі раённым камітэтам Чырвонага Крыжа танных набораў лякарстваў і аднаразовых шпрыцаў; за пастаўку па самых нізкіх цэнах у рэгіёне 750 тон топачнага мазута (заводу «Зеніт», ГВА ЖКГ, мэблевай фабрыцы); за пачатак рэканструкцыі другога ў Вілейскім раёне пансіяната для састарэлых у вёсцы Іжа.

А спраў і праектаў на будучае хапае.

Таму і хачу ад вас адчуць сапраўднае ўзаемаразуменне, дапамогу і падтрымку. І ўпэўнены, што гэта ўзаемаразуменне мы знойдзем.

Ведаць жадаю толькі адно: на якія справы і мэты накіраваны тыя 2,5 млн. рублёў, што выплачаны мной і прадпрымальнікам Леанідам Барысенкам па складзеных Вамі актах.

Калі не цяжка, адкажыце падаткаплацельшчыкам, якія добрыя справы зрабілі гэтыя грошы.

*Бо **жыццё дадзена на добрыя справы.***

***З павагай***
***прадпрымальнік Віктар Вейс.***

Вілейка, 1 мая 1995 года.

## ПРЫВАТНЫЯ БЯСПЛАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

ПРАДАМ недабудаваны двухпавярховы катэдж з будматэрыяламі ў Маладзечне. Тэл. 7-90-51.

ПРАДАМ дом з выгодамі і гаспабудовамі (70 кв. м) у Маладзечне. Тэл. 94-1-04.

ПРАДАМ трохпакаёвую кватэру ў Маладзечне па вул. Міру (другі паверх, тэлефон). Тэл. 5-04-56 дамашні, 5-45-75 рабочы.

ПРАДАМ аднапакаёвую кватэру ў Маладзечне. Тэл. 7-03-63, 6-73-23.

ПРАДАМ драўляны дом у вёсцы Вілейскага раёна, новы рухавік да матацыкла «Мінск». Тэл. у Маладзечне 7-67-65.

ПРАДАМ задні мост, дзверы левыя, аварыйны кузаў і інш. запчасткі да а/м ВАЗ 2103. Тэл. у Маладзечне 6-61-88.

ПРАДАМ тытан, батарэі чыгунныя, трубы, кацёл. Тэл. у Маладзечне 32-7-69.

ПРАДАМ ТЛФ з АОНамі, саксафон, прыстаўку «Дэндзі». Тэл. у Маладзечне 5-11-45.

МЯНЯЮ гараж у кааператыве 18 (вул. Касманаўтаў) на кааператыў 16 (вул. Міру). Тэл. у Маладзечне 6-11-44.

МЯНЯЮ кватэру ў Смаргоні на Маладзечна. ПРАДАМ кухонны гарнітур «Вольга», тахту. Тэл. у Маладзечне 26-3-32.

МЯНЯЮ гараж у кааператыве 21 на кааператыў 11 або ПРАДАМ. КУПЛЮ гараж у кааператыве 11. Тэл. у Маладзечне 5-36-87 рабочы, 6-67-26 дамашні.

МЯНЯЮ двухпакаёвую кватэру (шосты мікрараён) на дзве аднапакаёвыя. Тэл. у Маладзечне 7-63-32.

МЯНЯЮ дом у Валожынскім раёне на жыллё ў Маладзечне або ПРАДАМ. Тэл. у Маладзечне 6-06-71. Галіна.

ПРАДАМ адна- і трохпакаёвую кватэры. Тэл. у Маладзечне 5-38-77.

ПРАДАМ недабудаваны катэдж у Маладзечне, матацыкл «Мінск», КТ «Рэкорд» Ц-275. Тэл. у Маладзечне 5-05-25.

ПРАДАМ халадзільнік «Мінск-12Е» б/у. Тэл. у Маладзечне 5-43-95.

АФОРМЛЮ еўравізу за 8-10 дзён (Францыя, Германія, Партугалія, Бельгія, Галандыя, Іспанія). Тэл. у Маладзечне 7-40-75.

ВІДЭАЗДЫМКА, ФОТАЗДЫМКА сямейных урачыстасцей, дзяцей на даму. Тэл. у Маладзечне 5-03-91, 7-68-49.

МЯНЯЮ драўляны дом з участкам у Маладзечне на кватэру або ПРАДАМ. Тэл. у Маладзечне 5-26-02 рабочы.

ГРУЗАПЕРАВОЗКІ аўтамабілем МАЗ (кантэйнер) да 20 тон па РБ, краінах СНД і Балтыі. Тэл. у Маладзечне 6-10-94.

Цырульня ў Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 22 бясплатна абслугоўвае ветэранаў ВАВ 6-га чысла кожнага месяца. Тэл. 5-29-71.

ПРАДАМ дом у Маладзечне, карову з цялём у в. Мароські. Тэл. у Маладзечне 5-06-10.

МЯНЯЮ 2-пакаёвыя кватэры ў Палтаве, Салигорску, Гомелі на Маладзечна. Тэл. у Маладзечне 7-10-44.

АФОРМЛЮ еўравізу за 8-10 дзён (Германія, Францыя, Іспанія, Партугалія, Галандыя, Бельгія). Тэл. у Маладзечне 7-40-75.

ПРАДАЮ камбайн «Ніва» або МЯНЯЮ на іншую тэхніку. Тэл. у Вілейцы 49-6-36 у вячэрні час.

ПРАДАЕЦЦА міні-трактар МТЗ-082. Тэл. у Мядзеле 56-5-07 пасля 19.00.

ВЫСОКАЯКАСНЫ рамонт высокакваліфікаваным спецыялістам па памяркоўных расцэнках тэлевізараў любых марак. Устаноўка дэкодэраў ПАЛ і антэнных узмацняльнікаў ДМВ для якаснага прыёму тэлепраграм НТВ і С-Пецярбурга. Тэл. у Вілейцы 5-40-85 у вячэрні час.

ПРАДАМ двухпакаёвую кватэру (53/35 кв.м) у Валожыне. Тэл. у Валожыне 5-44-30

ПРАДАЕЦЦА аўтамабіль "ВОЛГА-ГАЗ-2401", 1975 года выпуску, ёсць запчасткі. Тэл. у Вілейцы 5-44-76, 5-75-30.

## КУПОН для бясплатных прыватных аб'яў

*Напішыце аб'яву друкаванымі разборлівымі літарамі і дашліце ў канверце або прынясіце ў рэдакцыю ці яе прадстаўніцтва*

**Тэкст аб'явы і тэлефон (адрас) для друку:**

**Прозвішча, імя і адрас (звесткі не публікуюцца):**

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна**

Маладзечна– 01773, Вілейка– 01771, Смаргонь– 01592, Ашмяны– 01593, Валожын– 01772, Мядзел– 01797, Астравец– 01591, Мінск– 0172




**РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА**

**Заснавальнікі:** рэдактарат, ЗАТ «Інтэрмаркет», фірма «Фаварыт».
**Пасведчанне** N1091.
**Выдавец:** рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты»
**Рэдактар:** Аляксандр МАНЦЭВІЧ
**Выканаўчы дырэктар:** Ігар ВЕЙС, прадстаўнік ЗАТ «Інтэрмаркет» у Вілейцы
Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна. Выходзіць па пятніцах. **Тыраж** 10000 экз.
**Цана 200 рублёў.**
**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
222310, Маладзечна, вул. Хмяльніцкага, 22 , фірма «Фаварыт», «РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА»
**ПРАДСТАЎНІЦТВА ў Вілейцы:**
222410, вул. Вадап'янава, 55, ТАА «ВТХ»
**ТЭЛЕФОНЫ:**
у Маладзечне 52953
у Вілейцы 56225
у Мядзеле 55337
**ФАКС:**
у Вілейцы 58622
**РЭКЛАМА**
Базавая стаўка 7500 рулёў за 1 кв. см. Прадугледжана сістэма скідак. Расцэнкі сапраўдныя да 1 чэрвеня 1995 года. Разліковы рахунак N 468704 ФАКБ «ПОИСК» у Маладзечне, код 115, атрымальнік рэдакцыя «РГ»
Рэдакцыя можа публікаваць матэрыялы, якія адлюстроўваюць толькі пазіцыю іх аўтараў, у парадку абмеркавання. Перадрук— толькі са спасылкай на «Рэгіянальную газету». Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных аб'яў.
Аддрукавана з арыгінал-макета ў друкарні «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Валянціна Таўлая, 11
**Заказ N**
Падпісана ў друк 27.04.95